ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | № 140 (4921) СУБОТА, 21 лістапада 1998 года | Кошт у розніцу — 4000 руб.

*Дыскусія: якой быць сістэме выхавання?*

## Хто першы зробіць крок насустрач?

Пытанне выхаваўчай работы ў школе ва ўмовах рэфармавання сістэмы адукацыі паўстае сёння вельмі востра, улічваючы тое, што адной з задач рэформы з'яўляецца найбольш поўная дыферэнцыяцыя навучання, якая прадугледжвае глыбокае вывучэнне асобы дзіцяці, яго патэнцыяльных магчымасцей і здольнасцей. Калі прааналізаваць выхаваўчы працэс, становіцца зразумела, што ён складаецца з дзвюх асноўных частак: урока — з аднаго боку, пазакласнай работы — з другога. Ад майстэрства і прафесіяналізму настаўніка-прадметніка ў многім залежыць, які вынік мы атрымаем у будучым: упэўненага ў сабе выдатніка ці харашыста, альбо дзіця, якое страціла цікавасць да вучобы ці мае адхіленні ў паводзінах, альбо якое папоўніць групу "цяжкіх" падлеткаў.

Пры пераходзе з пачатковай школы ў сярэднюю, ад аднаго настаўніка да настаўнікаў-прадметнікаў, у некаторых вучняў зніжаецца паспяховасць, губляецца цікавасць да навучання. І потым, не маючы магчымасці рэалізаваць свае незапатрабаваныя здольнасці, дзеці імкнуцца самавыразіцца іншым чынам. А гэты спосаб самавыражэння часцяком прыводзіць іх у групы "цяжкіх", г.зн. з-за няправільнай ацэнкі патэнцыяльных магчымасцей дзяцей мы самі губляем іх на нейкім этапе.

Другая частка выхаваўчай работы — гэта пазакласная і пазашкольная работа, вывучэнне соцыуму вучняў, іх узаемаадносін у сям'і. У гэтым накірунку асноўная праца з дзецьмі вядзецца класным кіраўніком, сацыяльным педагогам, псіхолагам школы.

Сацыяльнае акружэнне дзіцяці, асяроддзе яго ўзаемін будзе стымуляваць самарэалізацыю альбо ў дасягненні дакладна сфармуляванай мэты, альбо ў накірунку пасіўнасці і, што яшчэ горш, агрэсіі да ўсяго навакольнага. Як часта мы сутыкаемся з сітуацыяй, калі здольнае дзіця становіцца непаспяваючым вучнем, пачынае прапускаць урокі, праяўляе агрэсію. Такая сітуацыя звычайна ўзнікае пры пагаршэнні ўзаемаадносін у сям'і, калі дзіця прадастаўлена самому сабе ці проста пазбаўлена элементраных ўмоў нармальна жыць і вучыцца. І першай, на жаль, хто працягвае руку такім дзецям, з'яўляецца вуліца з яе кампаніямі і ўяўнай незалежнасцю. Не ўпусціць такі момант (узнікненне праблемы ва ўзаемаадносінах у сям'і) для нас, педагогаў, вельмі важна, паколькі працаваць па факту, калі праблема ўжо ўзнікла, даволі складана, а часам і не мае ніякага сэнсу.

Калі своечасова ўбачыць праблему ўзаемаадносін у сям'і, калі акружыць такое дзіця клопатам, запоўніць яго вольны час цікавымі справамі, накіраваць яго энергію на развіццё ўласных здольнасцей — школа, а не вуліца стане для яго тым месцам, дзе будзе магчымасць самарэалізацыі як асобы.

Толькі творчае супрацоўніцтва і садружнасць адміністрацыі школы, сацыяльна-псіхалагічнай службы, класных кіраўнікоў, настаўнікаў-прадметнікаў, нашы сумесныя комплексныя дзеянні ў выхаваўчай рабоце з вучнямі могуць прынесці добры плён. І без удзелу ў гэтым працэсе сям'і нам ніяк не абысціся. Школа першая павінна зрабіць крок насустрач бацькам вучня.

**Ігар ЧУМІЛА,**
**дырэктар сярэдняй школы №59 Мінска.**



Веды і педагагічнае майстэрства настаўніцы англійскай мовы Язершчанскай сярэдняй школы Гарадоцкага раёна Л.Д.Прахаравай здабылі ёй пашану вучняў і калег.

**Фота Юрыя БОНДРАВА.**

*Будні школы-інтэрната*

## На ўзбочыне

Я так і не ведаю, дзе канкрэтна ў Бешанковічах знаходзіцца дапаможная школа-інтэрнат для дзяцей, якія маюць адхіленні ў псіхалагічным развіцці. Мы прымчалі некуды на ўзбочыну шашэйкі Мінск — Віцебск, па якой я толькі што ехаў на падарожнай машыне, за прыгожы сасновы бор. Даставілі мяне на месца інтэрнатаўцы на сваім транспарце. Я ўпершыню ў жыцці праехаўся на БМВ.

Утульна і цёпла ў інтэрнаце. Гэтаксама ж — і ў кабінеце дырэктара Мікалая Аляксеевіча Ятчанкі. Тут у выглядзе тканага дывана, двух бюстаў розных памераў і канфігурацый, а таксама поўнага збору твораў жыве Уладзімір Ільіч Ленін.

— Па закліку сэрца? — пытаюся, ківаючы на правадыра.

— Ды так, есці не просіць, — адказвае гаспадар кабінета. — Не люблю, калі штосьці валяецца ў беспарадку.

Мікалай Аляксеевіч сапраўды не любіць беспарадку. Можа, адсюль і пайшло яго незвычайнае "хобі". Ятчанка гатоў сабраць усе пакалечаныя часам ды людзьмі бюсты, статуэткі, помнікі, якіх нямала гаруе на вуліцах, на скрыжаваннях, ля розных арганізацый ды ўстаноў. Адны без рук, другія без ног.

Я быў параіў Мікалаю Аляксеевічу ў блізкім, прыінтэрнацкім лясочку зрабіць музей гіпсавых ды бронзавых фігур кшталту англійскага музея мадам Цюсо. А што, сапраўды есці не просяць. А мо пайшлі б сюды экскурсіі ды паплылі б грошы, якія зусім не лішнія сёння для інтэрната. Бо жывыя насельнікі гэтай установы, у адрозненне ад гіпсавых, есці просяць. І яны таксама пакалечаны жыццём. Апынуўшыся на ўзбочыне жыцця, дзеці, вядома, не вінаватыя, што яны такімі нарадзіліся. Вінаватыя мы, дарослыя. Гэта мы не змаглі стварыць ім такія ўмовы, каб яны раслі паўнацэннымі гаспадарамі свайго лёсу. Не ведаю, але, пабываўшы ў падобных інтэрнатах, хочацца зрабіць для некаторых бацькоў такія рэзервацыі, з якіх бы яны ніколі не выйшлі ды, прабачце, не пладзілі б сабе падобных. Але гэта ўжо іншы, сацыяльна-прававы аспект праблемы. Пакуль жа маем тое, што маем. Дзяржава ўзяла на сябе клопат пра дзяцей з адхіленнямі ў псіхічным развіцці, стварыўшы для іх інтэрнаты, такія, як у Бешанковічах. Дзеці тут добра забяспечаны, яны не ведаюць, што такое нястача. Добра ці кепска? І добра, і кепска. Выйшаўшы неўзабаве за сцены інтэрната, маладыя людзі стануць утрыманцамі, якія не ведаюць цаны кавалку хлеба, а галоўнае, не здольны спланаваць свайго бюджэту. А ўтрымліваць іх проста не будзе каму. Слушна заўважае намеснік дырэктара школы Раіса Іванаўна Плаксіцкая, дзелячыся ўражаннямі ад наведвання бацькоў гэтых няшчасных дзяцей.

— Заходзіш — стаіць печ, якісьці стол, якаясьці лава і груда рыззя ў куце. Шукалі нашы дзяўчаты хаця б падабенства нейкай лыжкі ці міскі, каб можна было есці — так і не знайшлі...

Дзеці едуць на выхадныя дадому, а назад ім няма ў чым вярнуцца: бацькам "дапамаглі". На той выпадак трымаюць у інтэрнаце "недатыкальны запас" адзення, сабранага абы-дзе. Нітка да ніткі — беднаму кашуля. Калі ў інтэрнаце для дзяцей-сірот, як, скажам, у Бягомлі, дзяржава яшчэ забяспечвае небаракаў адзеннем, то ў "звычайных" дапаможных інтэрнатах вось ужо пяць гадоў, як адзеннем не забяспечваюць, дзеці фактычна пакінуты на волю лёсу. А жыць жа неяк трэба.

— Пасеялі сёлета тры гектары ячменю, — хваліцца Мікалай Аляксеевіч, — буракі, капуста свая, маем сем гектараў саду.

— Яблыкі здаяце?

— Ага, можа, няёмка казаць, на спіртзавод, у Чашнікі.

— Чаму ж няёмка? Грошы — яны не пахнуць.

— Яшчэ вунь як пахнуць, — не згаджаецца дырэктар. — Зайдзіце ў нашы цяпліцы. Мы туды перасадзілі на зіму каалы, і ўжо неўзабаве яны зацвітуць зноў. Цудоўны пах і — жывыя грошы.

І мы — ідзём. Праз дворык, па ўзмежку поля, іхняга поля, дзе вырошчваюць сваю агародніну. Спускаемся ніжэй, да Заходняй Дзвіны, на беразе якой стаіць інтэрнат.

— Бяда цэлая, — разводзіць дырэктар рукамі. — Як толькі вясна, дык дзеці вуды ў рукі і бягуць на рэчку. А берагі тут стромыя, небяспечныя.

Спускаемся бліжэй да ракі, каб паглядзець іх ачышчальныя збудаванні. Нідзе ў горадзе няма такіх. Усё тут прадугледжана: дзве копанкі, маса лабірынтаў, магутныя дзвіжкі — хітра прыдуманая сістэма, праходзячы праз якую, вада паступае ў Дзвіну ўжо чыстаю. А далей — іх гаспадарчы двор.

— Трымаем некалькі свіней, — кажа дырэктар, — а ўлетку, калі народ наш раз'язджаецца, здаём іх.

На гаспадарчым двары — нарыхтаваныя дровы. На ўсякі выпадак, раптам цэнтралізаваная кацельня падвядзе. Тут жа — амаль што сабраны трактар. О, як збяруць трактар, адразу паменее праблем: і адвезці, і засеяць, і ўбраць... Пакуль жа ў гаспадарцы ёсць аўтобусік, якому дваццаць адзін год (дый то не новым сюды паступіў), той самы БМВ па мянушцы "казёл". Быў яшчэ дваццаціпяцігадовы конь. Праўда, будзем справядлівымі, абяцаюць хутка даць інтэрнату новы транспарт. Але ж ужо сёння трэба кожны дзень падвозіць прадукты, каб накарміць сто сорак трох выхаванцаў. Бывала, што і на тачках малако вазілі, балазе малаказавод побач. Усялякае бывала.

Вось так і жывуць. Шукаюць спонсара, пажадана багатага, бо рамы тут на вокнах не мянялі дваццаць гадоў, сантэхніка даўно плача, чакае замены. Ды ўвогуле, ад самага пачатку свайго існавання навучальная ўстанова не ведала капітальнага рамонту. А ёй ужо хутка чвэрць стагоддзя.

Вось так і жывуць, эканомячы кожную капейку. Дырэктар — запаслівы чалавек. Непатрэбнымі сталі арэлі Дому культуры — выпрасіў. Няхай сабе без матора, але дзеці самі "заводзяць" іх па чарзе. І катаюцца. Стадыён някепскі пабудаваны. Мноства тут спартыўных трэнажораў, дзецям ёсць дзе займацца, бо зала спартыўная ў іх вельмі маленькая. І тым не менш хакейная каманда з інтэрната пабывала ўжо за мяжою.

Вось так і жывуць. Хоць і ў райцэнтры, але ж на ўзбочыне. Вырастуць, навучацца тут, у інтэрнаце, шыць, майстраваць, можа, трапяць вучыцца далей у спецыяльнае ПТВ (ёсць такія: тры — у Віцебску, адно — у Друі, на Браслаўшчыне), авалодаюць прафесіямі муляра, тынкоўшчыка... Можа, і вынесе іх на дарогу, патрапяць у наезджаную каляіну, калі пашанцуе... А можа... Жыццё зараз такое.

**Уладзімір МІХНО.**

*Вачыма студэнта*

## Містэр Сміт, які не саромеецца вучыцца ў студэнтаў

***У Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце з'явіўся новы выкладчык. Здаецца, што тут дзіўнага — звычайная з'ява. Але вось прозвішча выкладчыка даволі незвычайнае — Сміт. І ён сапраўдны амерыканец.***

Ён прыехаў са Злучаных Штатаў Амерыкі ў нашу сінявокую Беларусь, каб выкладаць эканоміку ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце. Нам невядома, чым яго завабілі на Беларусь, дзе трэба сапраўды быць адданым ідэі чалавека (бо ні пра якія матэрыяльныя здабыткі можна і не згадваць)? Але для нас гэта не так ужо і істотна. Галоўнае, што пра студэнцтва паклапацілася кіраўніцтва вышэйшай навучальнай установы і здолела запрасіць на Беларусь прафесара Мічыганскага універсітэта. За цэлы год, які ён тут прабудзе, студэнты здолеюць атрымаць выдатную моўную практыку і веды па эканоміцы. Гэта вельмі патрэбна для будучых спецыялістаў у галіне міжнародных эканамічных адносін — авалодаць замежнай мовай, зрабіць яе падуладнай сабе, бо трэба будзе ўмець данесці да міжнароднай аўдыторыі сваё, і данесці гэта прафесійна. На вялікі жаль, універсітэт не ў стане паслаць сваіх студэнтаў за мяжу на стажыроўку, каб прайсці моўны трэнінг у замежным асяроддку, таму тым больш важныя такія візіты іншаземцаў.

Але не асвятленне моўных аспектаў падрыхтоўкі будучых эканамістаў з'яўляецца галоўнай мэтай майго допіса. Я хачу падзяліцца сваімі ўражаннямі ад амерыканскага працэсу навучання, у якім мне давялося прыняць удзел.

Перш за ўсё, любы курс містэр Сміт пачынае з вызначэння яго (курса) мэтаў, што натуральна, бо заўсёды цікава ведаць, якая практычная карысць будзе ад вывучэння той ці іншай дысцыпліны.

Потым, вельмі ўражвае яго лаяльнасць да студэнтаў падчас лекцый і семінараў. Ніколі не чуў ад яго слова незадавальнення наконт нашых спазненняў, пропускаў і г.д. Містэр Сміт ніколі не настойвае, каб мы адказвалі яму на семінарах і актыўна ўдзельнічалі ў абмеркаваннях. Ён нават намагаецца зрабіць нашы заняткі больш вольнымі, каб у нас не знікала цікавасць да іх, вельмі часта дазваляе сабе жарты, што робіць яго тлумачэнні больш жывымі і каларытнымі. Тое, што мы можам разбалавацца, для яго, верагодна, не так важна. Куды больш істотна, каб мы, студэнты, засвойвалі матэрыял і потым з яго дапамогай былі ў стане вырашаць пастаўленыя задачы. Падчас фінальных тэстаў на паверхню выходзіць усё тое, што мы паспелі засвоіць і замацаваць падчас працы дома і ў аўдыторыях. Тут адчуваецца прафесійны падыход да выкладання, бо для выкладчыка істотны вынік яго прафесійнай працы, а не выхаваўчай. І гэта, як мне падаецца, з'яўляецца найбольш значным.

Цікава адзначыць, што містэр Сміт спадзяецца на студэнцкую самастойнасць і свядомасць. Гэта можна пацвердзіць хоць бы і тым, што ён ніводнага разу не правёў праверкі хатняга задання, хоць тут неабходна сказаць, што на дом задае вельмі шмат. Падрыхтуеш ты ўсё ці не — гэта твая ўласная справа, і нічыя іншая. На тэсце ўсё роўна ўсё высвеtліцца.

У вас, можа, склалася ўражанне, што містэру Сміту ўсё роўна, хто мы такія, што робім на яго занятках, і што ён зацікаўлены толькі ў тым, каб правесці фінальны тэст і адпаведна выніку ацаніць паспяховасць. Калі такое ўражанне склалася, дык яно памылковае, і зараз растлумачу — чаму. Тое, што на студэнтаў не "насядаюць", дык гэта з-за своеасаблівага разумення свабоды амерыканскім прафесарам. Але адначасова ён заўсёды напагатове адказаць на любыя пытанні, нешта растлумачыць і давесці да сваіх студэнтаў. Акрамя гэтага, у містэра Сміта ёсць нешта накшталт "прыёмнай гадзіны", калі ён заўсёды "ў наяўнасці" для студэнтаў. Калі чалавек ахвяруе сваім вольным часам дзеля наладжвання двухбаковай сувязі са студэнтамі, дык яго ўжо ніяк нельга назваць абыякавым.

Ну і апошняя рыса. Містэр Сміт не саромеецца вучыцца ў студэнтаў. І, дарэчы, яго пытанні наконт сітуацыі ў Беларусі, якія на першы погляд могуць падацца дзіцячымі для нас, беларусаў, прымушаюць задумацца над тым, што даўно ўжо стала нашай паўсядзённасцю, на якую мы не звяртаем увагі, але на што нельга забывацца. Такім чынам, нават праз пытанні, якія патрабуюць, як можа падацца на першы погляд, простых адказаў, містэр Сміт прымушае нас глыбей усведамляць нашу рэчаіснасць. Гэта цудоўна.

**Аляксандр БЕСАРАБАЎ,**
**студэнт БДЭУ.**



*З чаго пачынаецца Радзіма*

## Падарожжа ў мінулае

***Старажытныя крывічы маглі прагнаць юнака з племені, калі той не ведаў сваіх продкаў да пятага калена. Яны лічылі, што такі чалавек можа стаць здраднікам. А што ведаюць сучасныя школьнікі пра жыццё сваіх продкаў?***

***Сёння мы пажынаем плады сваёй няўвагі да праблемы патрыятычнага выхавання. Маладыя людзі не жадаюць служыць у арміі, моладзь марыць жыць за мяжой, а такія святыя паняцці, як радзіма, патрыятызм, грамадзянскія абавязкі, губляюць сваю маральную каштоўнасць. Цяжка выхаваць сапраўдным грамадзянінам, патрыётам таго, хто не ведае гісторыі, культуры, маральных каштоўнасцей свайго народа.***

Каб пазнаёміць дзяцей з нашай спадчынай, у Уздзенскай санаторнай школе-інтэрнаце былі створаны два музеі: музей народнага быту "Беларуская мінуўшчына" і музей гісторыі школы. Стваральнік іх — настаўнік гісторыі вышэйшай катэгорыі Людміла Захараўна Косіч, былая выпускніца БДУ.

У музеі "Беларуская мінуўшчына" налічваецца больш як 150 экспанатаў, большасць з якіх — арыгінальныя. Праца па стварэнні гэтага музея пачалася ў 1991 годзе. Актыўны ўдзел у зборы экспанатаў прыняў увесь калектыў школы — педагогі і вучні.

Матэрыялы музея даюць нагляднае ўяўленне пра гаспадарку і быт беларускага народа.

У першай зале размешчаны прылады працы, посуд, ткацкія прылады і іншыя прадметы народнага быту.

У другой зале — інтэр'ер сялянскай хаты. Тут і чырвоны кут з іконай, якая пакрыта вышываным даматканым ручніком, і куфар, дзе захоўвалі найбольш каштоўныя сямейныя рэчы, і шырокая лава, і ложак з пакрывалам ручной працы. Да столі падвешана калыска. Здаўна цэнтрам сялянскай хаты была руская печка. Тут прадстаўлены яе макет. Побач — узоры беларускага нацыянальнага адзення, а таксама лапці.

Другі школьны музей — музей гісторыі школы — працуе з 1997 года. Гэта адзіны ў рэспубліцы музей такога кшталту. Яго фонды налічваюць каля 300 экспанатаў. Вялікую дапамогу ў зборы экспанатаў аказалі ветэраны школы. Яны былі галоўнымі кансультантамі. Экспанаты размеркаваны па трох раздзелах, якія адпавядаюць асноўным перыядам гісторыі школы. У 1944 годзе, адразу пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у гарадскім пасёлку Узда быў заснаваны спецыяльны дзіцячы дом для дзяцей загінуўшых воінаў і партызан.

Першы раздзел музея прысвечаны дзіцячаму дому. Тут фотаздымкі дырэктараў, выхавальнікаў, выхаванцаў, іх узнагароды і асабістыя рэчы. Цікавасць выклікае макет дзіцячага дома, зроблены рукамі выхаванцаў. Падчас экскурсій, якія тут рэгулярна праводзяцца, наведвальнікі даведваюцца пра жыццё выхаванцаў у цяжкія пасляваенныя гады, пра іх лёс. Сярод выпускнікоў дзіцячага дома — рабочыя і сяляне, інжынеры, архітэктары, мастакі, заслужаныя настаўнікі школ Беларусі і іншыя. У архіве музея ёсць успаміны, напісаныя самімі работнікамі і выхаванцамі альбо запісаныя паводле іх слоў.

У 1959 годзе на базе дзіцячага дома была створана сярэдняя агульнаадукацыйная школа-інтэрнат. У другім раздзеле музея сабраны матэрыялы, якія тычацца гэтага перыяду школы — вучоба, удзел вучняў у мастацкай самадзейнасці, спорце, турызме, грамадска карыснай працы. Разгортваецца панарама жыцця ўсёй савецкай школы таго перыяду — падручнікі, школьныя прылады, піянерская і камсамольская атрыбутыка. Цікавыя працы саміх вучняў — драўляная ваза, вышыўкі, разьба па дрэве.

Шмат экспанатаў і ў раздзеле, які прысвечаны трэцяму перыяду гісторыі школы — санаторнай школе-інтэрнату. Гэта школа была адкрыта ў 1993 годзе для аздараўлення дзяцей з чарнобыльскай зоны. На стэндах і вітрынах — фотаматэрыялы, якія ілюструюць усе бакі жыцця школы — аздараўленне, навучанне і вольны час дзяцей, працу гурткоў. Адлюстраваны замежныя і шэфскія сувязі школы. Тут жа змешчаны найбольш цікавыя аўтарскія матэрыялы і метадычныя распрацоўкі настаўнікаў і выхавальнікаў, напрыклад, аўтарскія праграмы "Спадчына", "Чалавек", "Міласэрнасць", арыгінальныя распрацоўкі мерапрыемстваў, праграмы факультатываў і спецкурсаў.

Паводле слоў тых, хто наведваў гэтыя музеі, у іх залах жывуць шчодрасць і прыгажосць.

**Тамара ШАЎЧЭНКА.**



Рукадзельніцай расце сямікласніца Германавіцкай сярэдняй школы, што ў Шаркоўшчынскім раёне, Алена Крыўко. Любіць яна пасядзець у вольную хвіліну за калаўротам, самапрадкай, кроснамі, выткаць прыгожы ўзор.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.**

*Далягляды навукі*

## Ці адновяцца дубравы?

***"Парода трэцяга тысячагоддзя" — так называлася навукова-практычная канферэнцыя, якая не так даўно праходзіла ў Бабруйскай, Асіповіцкай, Клічаўскай лясных гаспадарках, на Жорнаўскай эксперыментальнай базе Інстытута лесу Нацыянальнай акадэміі навук пад эгідай Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі, Міністэрства лясной гаспадаркі, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.***

Удзельнік канферэнцыі старшы навуковы супрацоўнік Інстытута эксперыментальнай батанікі імя В.Ф.Купрэвіча Нацыянальнай акадэміі навук, кандыдат сельскагаспадарчых навук Уладзімір Валянцінавіч Сарнацкі адзначае:

— Вялікае народнагаспадарчае значэнне, экалагічная каштоўнасць дубраў і вялікі попыт на драўніну дуба і абумовілі неабходнасць правядзення гэтага форуму. Сёння праблема аднаўлення і вырошчвання дубовых лясоў, комплекснага вядзення лясной гаспадаркі з'яўляецца актуальнай для ўсіх еўрапейскіх краін на постсавецкім абшары, асабліва для Беларусі, Расіі і Украіны. Таму ў вучоных і ўзнікла неабходнасць каардынацыі і пашырэння навуковых даследаванняў па дубе.

Сярод задач, пастаўленых форумам, — аднаўленне ўстойлівых і высокапрадукцыйных дубраў, правядзенне рэканструкцый малакаштоўных маладнякоў, распрацоўка метадаў рэабілітацыі дубраў, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, арганізацыя навучання інжынерных і рабочых кадраў з улікам спецыфікі працы ў дубравах. Спадзяёмся, што такія меры дапамогуць нашай рэспубліцы, якая здаўна славілася высокапрадукцыйнымі дубравамі з іх выдатнымі водаахоўнымі, водарэгулюючымі і полеахоўнымі ўласцівасцямі, аднавіць былую славу беларускіх дубраў як свайго роду сімвал магутнасці і культуры дзяржавы.

Наступную аналагічную канферэнцыю плануецца правесці ў 2000 — 2001 гадах у Расіі ці на Украіне.

**Сняжана МІХАЙЛОЎСКАЯ.**

## А Вы выпісалі сваю газету?

**Паважаныя педагогі! Працягваецца падпіска на "Настаўніцкую газету" на 1999 год.**

**Падпісны кошт на квартал — 120 тысяч рублёў, на паўгоддзе — 240 тысяч рублёў.**

